# ІСКРА

№ 54 (8477)
СУБОТА
15
ЛІПЕНЯ
2000 г.
Выдаецца
з 1931 г.
Цана 51 рубель

Газета ўзнагароджана
Ганаровай граматай
Вярхоўнага Савета БССР

Грамадска-палітычная газета Чавускага раёна




Своечасова завяршылі ў калгасе "Перадавік" уборку першага ўкосу траў. Аднак, мяркуючы па колькасці кармоў, нарыхтаваных для грамадскага пагалоўя, тут пакуль рана расслабляцца: сена назапашана 220 тон, або 26 працэнтаў да патрэбы, сенажу – 1220 тон (77 працэнтаў). У разліку на ўмоўную галаву жывёлы маецца толькі па 6,4 цэнтнера кармавых адзінак пры сярэднераённым паказчыку 6,5.

Разлік у гаспадарцы робіцца на другі ўкос траў, дзеля чаго сенажаці імкнуцца падкарміць мінеральнымі тукамі. Мяркуецца папоўніць фуражныя запасы і за лік іншых кармавых культур, а таксама лепш заахвоціць тых, хто заняты сёння ў калгасе на нарыхтоўцы кармоў.

Сярод механізатараў, працуючых на "зялёнай ніве", добрымі вынікамі вызначаецца Уладзімір Іванавіч Кармызаў, які трэці сезон убірае травы на кормаўборачным камбайне "Палессе". На яго рахунку ўжо тысяча тон нарыхтаванай сянажнай масы.

**НА ЗДЫМКУ: У.І.Кармызаў.**

**Фота В.ШУМАНСКАГА.**

## *Лепшыя працаўнікі, занесеныя на раённую Дошку гонару*

**БУЦЯНКОЎ У.І.**, дырэктар арэнднага завода жалезабетонных вырабаў;
**КРАЎЦОЎ М.Д.**, начальнік ДРСУ-176;
**АДДЗЕЛЬНЫ М.М.**, старшыня калгаса "Серп і молат";
**КАЗІНКОЎ М.І.**, старшыня калгаса "Антонаўскі";
**ДУШКО Г.В.**, дырэктар прадпрыемства па будаўніцтву і эксплуатацыі меліяратыўных і водагаспадарчых сістэм;
**УШАКОВА В.У.**, брыгадзір ільнозавода;
**ВАСІЛЕЎСКІ Г.В.**, начальнік раённага вузла электрычнай сувязі;
**ГАЛУБЦОЎ У.Я.**, прыватны прадпрымальнік;
**ЗІМЯНКОВА М.Р.**, загадчыца Атражскай малочнатаварнай фермы калгаса "Святло Кастрычніка";
**ГРЫБОЎСКІ У.С.**, загадчык Прылескай фермы калгаса "Чавускі";
**ЖЫРКЕВІЧ Т.І.**, старшыня Вайнілаўскага сельскага Савета;
**ГАНЧАРОЎ В.В.**, галоўны аграном калгаса "Пяцігодка";
**АНІШЧАНКА У.А.** ( па выніках мінулага года – лепшы заатэхнік раёна, працаваў у калгасе "Пяцігодка", зараз – старшыня калгаса імя Ільіча);
**ЗЕРАНКОЎ М.М.**, галоўны інжынер калгаса "Пяцігодка";
**ЛЮБЕЦКАЯ Т.М.**, галоўны бухгалтар калгаса "Галавенчыцы";
**СЦЕФАНЕНКА М.М.**, трактарыст калгаса "Праўда";
**МІХАЙЛАЎ В.А.**, вадзіцель калгаса "Антонаўскі";
**КІЛЬБІНА Р.П.**, даярка калгаса "Святло Кастрычніка";
**ЧУБУКОВА В.Я.**, свінарка калгаса "Антонаўскі";
**ЯНУСАВА В.Ф.**, свінарка калгаса "Антонаўскі";
**САЛАДКОВА Ж.В.**, асемянатар калгаса "XVIII партз'езд";
**ЛАПІЦКІ С.М.**, слесар па рамонту сельгасмашын ААТ "Аграсервіс";
**МАЦЮШЭЎСКІ П.М.**, машыніст скрэпера ДРБУ-176;
**ЯКАЎЛЕЎ С.А.**, начальнік станцыйнага ўчастка РУЭС;
**КІСЯЛЁВА В.М.**, паштальён Благавіцкага аддзялення сувязі;
**ДРАБУШЭЎСКІ А.В.**, брыгадзір апаратыўна-рамонтнай брыгады РЭС;
**БАРАДЗІН Д.У.**, вадзіцель аўтамабіля ЗІЛ-130 аўтапарка № 10;
**ШПАКАВА В.М.**, загадчыца Радамльскага магазіна;
**ДАЛЕЦКІ В.А.**, майстар участка цепласетак РВА ЖКГ;
**ДРАЧОВА А.Л.**, швачка камбіната бытавога абслугоўвання;
**МАХАНЕНКА В.В.**, настаўнік фізікі Сласцёнаўскай школы-сада;
**ІГНАЦЕНКА Т.В.**, выхавацельніца дзетсада № 4;
**РАСТОВА В.В.**, загадчыца акушэрска-гінекалагічнага аддзялення райбальніцы;
**КУПРАС Л.В.**, бібліятэкар Хацкавіцкай сельскай бібліятэкі;
**ЧУЯШОВА І.Ю.**, начальнік Ваўкавіцкага аддзялення сувязі;
**КАНДРАШОЎ М.В.**, брыгадзір мантажнікаў ААТ "Чавуская ПМК-278";
**БУЛАХАВА А.У.**, загадчыца дзіцячага аддзялення райбальніцы;
**САЗОНАВА С.К.**, загадчыца Забалацкай школы-сада;
**ШУНДАЛАВА З.П.**, загадчыца Антонаўскага дзіцячага сада;
**САФОНЕНКА А.М.**, галоўны ветурач калгаса імя Ільіча.

## ТЫДЗЕНЬ ЧАВУСЫ РАЁНА

### ЭКАНАМІЧНЫ САВЕТ

У райсельгасхарчы адбылося пасяджэнне эканамічнага савета, дзе былі абмеркаваны пытанні арганізацыі летне-пашавага перыяду ў гаспадарках раёна. Кіраўнікам гаспадарак, дзе дапушчаны хібы ў рабоце жывёлагадоўчых ферм, вызначаны тэрміны для ўхілення выяўленых недахопаў.

### ПРЫЁМ ПРАВОДЗІЦЬ МІНІСТР

У адпаведнасці з графікам, зацверджаным Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, 21 ліпеня з 10.00 у Магілёўскім аблвыканкоме будзе ажыццяўляць прыём грамадзян вобласці міністр па надзвычайных сітуацыях В.П.Астапаў. Папярэдні запіс праводзіцца па рабочых днях з 8.30 да 17.00 па адрасу: г. Магілёў, Дом Саветаў, каб. 113 або па тэл. 32-67-21, 32-67-43 і 31-05-24 у абласным упраўленні Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

### НОВЫ АЎТАМАТ

У хуткім часе на Чавускім маласырзаводзе будзе наладжаны выпуск фасаванага масла, якое змогуць набываць у мясцовым гандлі і жыхары раёна. Днямі на прадпрыемства паступіла неабходнае для гэтага абсталяванне, якое зараз рыхтуюць да запуску. Аўтамат для фасоўкі масла будзе выпускаць гэты прадукт у брыкецікаў вагой па 200 грамаў.

### БЕСПРАЦОЎНЫХ СТАНЕ МЕНШ

Па рашэнні экспартнага савета Магілёўскай абласной службы занятасці насельніцтва, прынятага на гэтым тыдні, у бліжэйшы час 4 мільёны рублёў паступіць для стварэння 8 новых рабочых месцаў у ПМК-98 і 10 мільёнаў – пад адкрыццё 5 рабочых месцаў у ААТ "Чавуская ПМК-278".

### ЗНОЙДЗЕНА ДЗІЦЯ

Чуткі наконт таго, што ў раёне знойдзена кінутае нованароджанае дзіця, пацвердзіліся. Як мы даведаліся ў пракуратуры, немаўлятку знайшлі дзеці непадалёк ад вёскі Хацкавічы. Яно змешчана ў раённую бальніцу да высвятлення абставін. Ужо адшукалі і яго маці, ураджэнку горада Магілёва, супраць якой узбуджана крымінальная справа.

### ХРОНІКА

Начальнікам раённага вузла паштовай сувязі прызначаны ФЕДАРАЎ Міхаіл Стафанавіч, які да гэтага працаваў галоўным інжынерам аўтапарка № 10.

## У РАЙВЫКАНКОМЕ

**На гэтым тыдні адбылося чарговае пасяджэнне райвыканкома, якое вёў яго старшыня У.І.Пузырэўскі.**

На пасяджэнні было разгледжана пытанне аб выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна за першае паўгоддзе 2000 года. З інфармацыяй выступіла намеснік старшыні райвыканкома па эканоміцы Л.А.Шундалава. Былі таксама заслуханы тлумачэнні старшыні райпа А.В.Куляшова, начальніка аддзела нарыхтовак райпа А.М.Берасnева, старшынь калгасаў "Чавускі", "Праўда", "Асінаўскі" А.В.Радоўскага, А.У.Купцова і Д.А.Вайцяхоўскага.

У ходзе абмеркавання пытання адзначана, што па большасці напрамкаў развіцця народнай гаспадаркі забяспечана перавышэнне прагнозных паказчыкаў. Тэмп росту прамысловай вытворчасці ў супастаўных цэнах саставіў да леташняга ўзроўню 9,1 працэнта, што на 7,1 працэнта перавысіла прагнозны паказчык. Па выпуску таварнай прадукцыі гэты паказчык выкананы ўсімі прамысловымі прадпрыемствамі раёна. Лепшых вынікаў дасягнулі льнозавод, ААТ "Масласырзавод", ААТ "Завод ЖБВ", прыпынена падзенне вытворчасці на ААТ "Агароднінасушыльны завод".

Выпуск спажывецкіх тавараў у параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года ўзрос на 15,4 працэнта пры прагнозе 3, прымаліся меры для нармалізацыі становішча на спажывецкім рынку. Тэмп росту рознічнага тавараабароту па афіцыйна ўлічаных прадпрыемствах, уключаючы грамадскае харчаванне, саставіў за азначаны перыяд 105 працэнтаў пры 102 па прагнозу.

За гэты перыяд экспарт прадукцыі да леташняга ўзроўню павялічыўся ў 3,4 раза і асноўная яго доля (92,5 працэнта) прыпадае на масласырзавод. Аб'ёмы паставак па імпарту саставілі 18,1 тыс. долараў ЗША.

Разам з тым раённым спажывецкім таварыствам праводзілася недастатковая работа па нарошчванні вытворчасці спажывецкіх тавараў. Зніжаны аб'ём іх выпуску (98,3 працэнта) па прычыне змяншэння вытворчасці мяса і мясапрадуктаў на жывёлазабойным пункце. На 16,5 працэнта менш выраблена камбінатам кааператыўнай прамысловасці кайбас, на 26,6 працэнта – кандытарскіх вырабаў.

Тэмп росту аб'ёма рознічнага тавараабароту саставіў па раёну 105 працэнтаў пры прагнозным паказчыку 102.

Найбольшае адставанне па сістэме спажыўкааперацыі дапушчана кааппнарыхтпромам. (Больш падрабязны матэрыял аб гэтым будзе надрукаваны).

Уведзена ў эксплуатацыю 63 кватэры агульнай плошчай 5184 квадратных метры, што ў 2,6 раза больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года.

Выкананы прагнозны паказчык па аказанню платных паслуг насельніцтву – у асноўным за кошт павелічэння аб'ёмаў паслуг сувязі, культуры і жыллёва-камунальных. У той жа час менш аказана паслуг у гаспадарках раёна, райпалівазбытам, РБУ. Не выконваюцца і камбінатам бытавога абслугоўвання заданні па рамонту абутку, гадзіннікаў, паслугах цырульні і фотаатэльe, хімчысткі, рытуальных паслугах.

Нерэнтабельна працуюць сельскія комплексна-прыёмныя пункты з-за падзення попыту на іх паслугі ў сувязі з нізкімі даходамі насельніцтва, а таксама зношанасці абсталявання, недахопу абаротных сродкаў. Таму трэба асвойваць новыя віды бытавых паслуг, у першую чаргу – для састарэлых: распілоўка дроў, апрацоўка прысядзібных участкаў і г. д.

Працягваюць зніжацца аб'ёмы грузаперавозак, што ў значнай меры выклікана змяншэннем заказаў транспарту будаўнічымі арганізацыямі.

Асобая ўвага пры абмеркаванні пытання была звернута на развіццё сельгасвытворчасці: у грамадскай жывёлагадоўлі вытворчасць прадукцыі паменшылася за паўгоддзе на 6,1 працэнта, хаця прагназаваўся прырост 1,4 працэнта. Знізілася прадуктыўнасць дойнага статку, ніжэй леташняга колькасць пагалоўя, хаця пэўная работа па яго ўзнаўленню вядзецца і гэты колькасны разрыў паступова скарачаецца.

З 23 гаспадарак раёна паўгадавы план продажу дзяржаве малака выканалі 12, мяса – 16. Застаюцца праблемы і з корманарыхтоўкай.

За студзень-май у галінах эканомікі раёна атрымана 106,2 мільёна рублёў страт. У той жа час усе прамысловыя прадпрыемствы, акрамя гароднінасушыльнага завода, спрацавалі з прыбыткамі (за адпаведны перыяд мінулага года было 1,5 мільёна рублёў страт).

Найбольшая ўдзельная вага стратных прадпрыемстваў (74 працэнты) прыпадае на сельскую гаспадарку, цяжкім застаецца фінансавае становішча ў ААТ "Чавуская ПМК-278", райпа. Захоўваецца крызіс неплацяжоў. Нядоімка ў бюджэт дасягнула на 1 ліпеня 57,6 мільёна рублёў, маюць месца затрымкі ў выплаце заробку (РВА ЖКГ, камбінат бытавога абслугоўвання і інш.).

Вялікія неплацяжы ўтварыліся за спажытую электраэнергію (629,1 мільёна рублёў), прыродны газ (193,5 мільёна рублёў).

У прынятым рашэнні райвыканкам намеціў шляхі па далейшаму развіццю эканомікі раёна і выкананні гаспадарчых задач трэцяга квартала. Была адзначана неабходнасць актывізаваць работу па зніжэнні дэбіторскай і крэдыторскай запазычанасці, вывучыць сітуацыю ў працоўных калектывах, дзе дапушчаны адмоўныя вынікі гаспадарчай дзейнасці, вызначыць шляхі фінансавага аздараўлення суб'ектаў гаспадарання.

У канцы пасяджэння У.І.Пузырэўскі выказаў падзяку кіраўнікам масласырзавода, ільнозавода і завода ЖБВ Р.М.Іванчанку, М.А.Сівакову і У.І.Буцянкову, старшыням калгасаў "Антонаўскі", "Галавенчыцы", "Раста" М.І.Казінкову, А.А.Мацюліну і С.І.Барысенку за добрасумленную работу, і надзею на тое, што па выніках 9 месяцаў папраўляць эканамічнае становішча камбінат кааператыўнай прамысловасці, агароднінасушыльны завод, камбінат бытавога абслугоўвання.

У рабоце пасяджэння райвыканкома прыняла ўдзел намеснік старшыні камітэта эканомікі і рынкавых адносін Магілёўскага аблвыканкома Л.І.Шайграцава.

### Яны жывуць побач з намі

# Насуперак нягодам

Урэшце праліўся доўгачаканы дождж, і паветра, засмяглае ад доўгай спякоты, ператварылася ў духмяны напой, настоены на водары кветак і траў. Яго можна ўдыхаць бясконца і ніколі не насыціцца гэтым багаццем пахаў, што дорыць нам прырода ў самы пік свайго росквіту.

Выйшаўшы на ганак, Ганна Іванаўна залюбавалася яблынькамі, што так радуюць сёлета вока багатым ураджаем. Якое наўкол хараство: кветкі, птушынае шчабятанне. У такія хвіліны хочацца думаць толькі аб добрым, адганяючы пахмурныя ўспаміны. Але яны назаляюць, вымушаючы зноў і зноў вяртацца ў мінулае, назва якому – вайна. Мабыць, па той прычыне, што амаль 60 гадоў таму яна прыйшла ў адзін з такіх жа прыгожых, сонечных дзён.

Была тады Анюта семнаццацігадовай дзяўчынай. І яна не вельмі ўсведамляла, якая бяда абрынулася на родную зямлю, пакуль вораг не наблізіўся ўшчыльную. Трапіўшы ў акупацыю, давялося і ёй, разам з іншымі вяскоўцамі, жыць нейкі час па законах, устаноўленых новымі гаспадарамі. Але заўсёды хацелася вырвацца з гэтай нявол, каб прыносіць карысць сваім, па другі бок лініі фронту. Прадставілася ж такая магчымасць толькі тады, калі Чавускі раён быў вызвалены ад фашыстаў, і Аня разам з іншымі дзяўчатамі пачала працаваць у Верамейкаўскім шпіталі.

Услед за нашымі наступаючымі войскамі рухалася і медыцынская служба. Так, са сваім шпіталем дзяўчына прайшла праз Беларусь, Польшчу, Германію. Шмат на гэтым шляху давялося пабачыць людскіх пакут і крыві, разбурэнняў і гора. Аднак гэта ўжо быў рух да перамогі, і яна неўзабаве прыйшла. Праўда, дадому было яшчэ рана: трэба было выходжваць вязняў, якіх вызвалялі нашы з фашысцкіх канцлагераў. І толькі ў канцы восені 1945 года Аня ўрэшце зноў апынулася ў сваіх Сушчах.

Яе сустрэла разбураная вёска, горкая навіна аб смерці бацькі. Але трэба было неяк жыць далей. Разам з маці пабудавалі часовае жытло – зямлянку, а неўзабаве ўзяліся і за дом. Шмат



работы было і ў калгасе, дзе ўсё давялося пачынаць ледзь не з нуля.

Праз нейкі час у доме з'явіўся малады гаспадар. З Рыгорам Круцам Ганна сустрэлася, гасцюючы ў сястры ў Пружанах. Пазнаёміліся, пакахалі адзін аднаго. Сумеснаму жыццю не папярэднічала пышнае вяселле, было тады не да гулянняў. Ды і непрацяглы аказаўся той шлюб: праз нейкі час, не дараваўшы мужу крыўду, засталіся Ганна са сваёй дачушкай Тамарай адны. Другога бацькі ёй не шукала, так і выгадавала сама. І цяжка часам было, і самотна, але пераносіла жыццёвыя нягоды без скаргаў на лёс. Суцяшэнне знаходзіла ў працы і лічылася ў калгасе "Ленінскі шлях" адной з самых добрых работніц. Нейкі час была звеннявой па вырошчванню льну і атрымлівала высокія ўраджаі. Затым даглядала кароў, цялят. Некалькі гадоў запар выходзіла ў пераможцы раённага спаборніцтва. Знаходзіла Ганна Іванаўна час і для грамадскіх спраў: была членам праўлення калгаса, уваходзіла ў склад групы народнага кантролю. Да баявых узнагарод – ордэна Айчыннай вайны ІІ-й ступені, медаля "За баявыя заслугі" – прыбавіліся шматлікія граматы за старанную працу.

Ужо каля 20 гадоў Ганна Іванаўна Круц на пенсіі. А ў пенсіянера клопаты вядомыя: дом, хатняя гаспадарка. Гэта ўсё не ў цяжар, а ў радасць, бо не можа сялянская душа без працы на зямлі, яна – аснова жыцця і яго галоўны сэнс для тых, хто нарадзіўся і ўсё жыццё пражыў у вёсцы.

...Як лёгка дыхаецца, як пяшчотна лашчыць твар вецярок, як пахнуць кветкі. Ці не ў гэтым сапраўдная жыццёвая асалода – адчуваць сваю еднасць з прыродай, забываючы пра нягоды, узрост? І жыць пад чыстым мірным небам, якое зацягваецца час ад часу толькі дажджавымі хмарамі.

**Н.КАЛЕСНІКАВА.**

**НА ЗДЫМКУ: Г.І.Круц.**
**Фота В.ШУМАНСКАГА, Б.ЦЁХІНА (камп'ютэрная апрацоўка).**

## Дзіцячы адпачынак – на кантролі ўрада

На правядзенне сёлетняй летняй кампаніі па аздараўленню школьнікаў выдаткавана 14 мільёнаў рублёў. Гэта складае амаль палову ўсіх сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання, якія выдзелены на санаторна-курортнае лячэнне насельніцтва рэспублікі. Аб гэтым было заяўлена на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, якое адбылося ў Доме ўрада і прайшло пад старшынствам прэм'ер-міністра Уладзіміра Ярмошына.

Як было адзначана, летам у рэспубліцы адкрыты 682 аздараўленчыя кругласутачныя лагеры і больш за тры тысячы дзённых. У першую змену ў лагерах адпачылі каля 300 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак.

Разам з тым у гэтай рабоце ёсць шэраг праблем. Некаторыя лагеры не падрыхтаваліся да летняга адпачынку школьнікаў. Пагаршаецца матэрыяльна-тэхнічны стан гэтых устаноў. А даволі высокі кошт пуцёвак робіць адпачынак недаступным для дзяцей з малазабяспечаных сем'яў.

Прэзідыум Савета Міністраў прыняў рашэнне: зрабіць неабходныя захады па ўхіленню недахопаў у рабоце лагераў і арганізацыі адпачынку дзяцей. На гэтым пасяджэнні быў разгледжаны шэраг іншых сацыяльна-эканамічных пытанняў.

**(БЕЛТА).**

### Радок у біяграфію

# ФОРУМ ЗГУРТАВАННЯ

**Алеся Мельнікава – вучаніца 10 "Б" класа СШГ № 1 г.Чавусы. Яна з'яўляецца прызёрам рэспубліканскіх алімпіяд па беларускай мове: у 1999 годзе заняла другое месца, у 2000 годзе – трэцяе месца. Алесю Мельнікаву аддзел адукацыі сумесна з РК БПСМ накіравалі на рэспубліканскі форум, прысвечаны Міжнароднаму дню абароны дзяцей, які праходзіў з 31 мая па 2 чэрвеня ў Мінску.**

**Пра свае ўражанні расказвае Алеся Мельнікава:**

– Наша каманда з 18 чалавек сабралася ў Магілёве. Да адкрыцця форуму мы крыху спазніліся. Форум праходзіў у Палацы моладзі, дзе мы вывесілі ў актавай зале свае плакаты на тэму "Зямля блакітная – планета людзей". Пазнаёміліся з рабятамі з іншых абласцей Беларусі. А потым пачаўся вечар дружбы. Кожная каманда прадстаўляла сябе.

Да вечара дружбы падрыхтавалі забаўляльную праграму, КВЗ, выконвалі маладзёжныя песні. У нашу каманду ўвайшлі прадстаўнікі піянерскіх арганізацый, БПСМ, Беларускага нацыянальнага саюза моладзі і тыя, хто выйшаў у школах лідэрам года. Удзельнікам форуму было ад 14 да 21 года.

Вечарам праводзілі час каля вогнішча, якое распалілі ля возера паблізу ад Палаца моладзі, спявалі песні пад гітару.

На другі дзень было ўрачыстае адкрыццё форуму, на якім выступіў міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Васіль Стражаў, а таксама прадстаўнік ААН у Беларусі, які расказаў пра дзейнасць Міжнароднай маладзёжнай арганізацыі ЮНІСЕФ.

Потым пачала работу школа маладога лідэра, якая падзялілася на некалькі напрамкаў: ахова дзяцінства, грамадзянства, здароўе, экалогія, выжыванне ў экстрэмальных сітуацыях, ненасілле і культура свету і іншыя.

Я трапіла ў школу "Ненасілле і культура свету". У час дыскусіі ўсе выказвалі свае меркаванні аб маладзёжных праблемах. Нам трэба было скласці праект па тэме і прадставіць яго іншым удзельнікам форума. Потым мы складалі красворд на тэму культуры і міру. А вечарам быў канцэрт дзіцячага эксперыментальнага тэатра "Сінтэз" з г.Гомеля.

Трэці дзень быў, я так лічу, самай цікавай часткай усёй праграмы форума. Мы прадстаўлялі праекты, састаўленыя ў школах маладога лідэра. Выступіла некалькі ўдзельнікаў. Я таксама выступала.

Потым адбылася прэс-канферэнцыя. На ёй прысутнічалі намеснік міністра адукацыі, прадстаўнікі маладзёжных газет і часопісаў, прадстаўнікі дзіцячых і маладзёжных арганізацый. Мы задавалі пытанні, а госці давалі адказы. Ішла размова аб залатым медалі, аб ільготах медалістам пры паступленні ў ВНУ і г.д.

Яшчэ гаварылі аб дзесяцібальнай сістэме ацэнкі ведаў у школах. Збіраюцца яе ўвесці з 2001 года, а ў некаторых школах яна ўжо ўведзена, апроч 9 і 11 класаў.

Многіх хвалявала праблема працаўладкавання моладзі, гаварылі, што сумна жывём, што няма куды прыкласці свае сілы і веды. Калі б маладыя маглі рабіць у вольны час і зарабляць грошы, тады б, я так разумею, знізілася дзіцячая злачыннасць у нашай краіне.

Мае равеснікі ацэньвалі сваё жыццё на "3 з мінусам", указвалі, што не ўдзяляецца ўвага ў школах вывучэнню этыкі і сучаснай літаратуры. Хочацца быць усебакова развітым, а магчымасцей для гэтага мала. Нам абяцалі, што пастараюцца разгледзець нашы прапановы.

Мне запомніўся адзін штрых: калі настаўнік называе вучня па прозвішчу, то гэта, адзначалася, ужо парушэнне правоў дзіцяці, трэба называць па імю, ці па імю і прозвішчу.

Потым у нас быў час на заключны збор. На ім я пазнаёмілася з матэрыяламі, якія дзеці прывезлі са сваіх школ. Гэта фотаальбомы, якія афармляюць карэспандэнцкія брыгады з ліку старшакласнікаў. Ім выдзяляюцца грошы на фотаплёнку, фотапаперу, альбомы. У іх адлюстроўваюцца ўсе школьныя мерапрыемствы. Былі альбомы, у якіх вучні школы, пачынаючы з першага класа і заканчваючы адзінаццатым, маглі на перапынках напісаць усё, што думаюць. Я, безумоўна, пашкадавала, што такога альбома няма ў нашай школе.

Перад ад'ездам нам раздалі анкеты, у якіх было галоўнае пытанне: а ці патрэбен форум? Я палічыла, што форум проста неабходны. Гэта як бы этап аб'яднання моладзі ўсёй Беларусі. Мы ж раз'яднаны, а таму ўзнікае шмат праблем. А калі сабрацца ўсім, то гэта будзе ўжо нейкая сіла. Вельмі шкада, што на форум было адведзена толькі 3 дні. Але і за гэты час мы шмат аб чым даведаліся і пасябравалі.

### Карысна ведаць

# Мяса на продаж

**Наш час такі, што без базару не абысціся. Пенсія ў пажылых людзей маленькая, заробкі сялян часам і таго меншыя. Значыць, трэба гадаваць свінку ці цяля на продаж, каб неяк звесці канцы з канцамі.**

Каб прадаць мяса ці іншую прадукцыю са сваёй сядзібы і дачы, неабходна ведаць, на першы погляд, элементарныя правілы. Самае важнае – павінны быць дакументы (пашпарт), даведка ветустановы ці ветурача, аплачаны тарыф на гандаль).

Мясныя кавалкі дастаўляюцца ў халодным, ахалоджаным ці замарожаным выглядзе. Тэмпература мяса ад плюс 3–8 да мінус 1–10 градусаў (часта як лёд, але гэта бывае рэдка, бо такое мяса людзі звычайна не набываюць). Самі тушы могуць быць цэлымі, рассечанымі напалову (па спіне) ці на чатыры кавалкі. Да кожнай забітай жывёліны павінны быць унутраныя органы – сэрца, пячонка, лёгкія, ныркі, селязёнка. Калі вязём свінню, то абавязкова прыкладаем і галаву. Увогуле, галава – неабходны кампанент. Яе ў любым выпадку прыхапіць не шкодзіць.

Мяса ў кавалачках на экспертызу не прымаецца, продажу не падлягае. Тут можа быць падман ці ўтойванне хваробы. Выключэнне складае сала, якое салілася з месяц ці крыху менш, кумпячок. Але кляймо павінна стаяць і на іх.

Калі ў вас прадаюцца трусы, то на тушцы павінна быць і скуры частка. Звычайна гэта задняя ножка. Даўжыня той стужачкі са скурай недзе сантыметр у шырыню і два-тры сантыметры ў даўжыню. Курыца, гусь, качка прадаюцца без унатранасцяў і абсмаленымі.

Для праверкі ветслужбай, якая маецца на базары, уладальнік мяса дае даведку ад ветурача. У даведцы ўказана, што жывёліна агледжана, яна была здаровай, а ў той мясцовасці, адкуль паступіла, заразных хвароб няма. Даведка падпісана і заверана пячаткай ветслужбы. Тэрмін яе дзеяння – не больш чым тыдзень (звычайна тры дні).

На базары часткі тушы і ўнутранасці даследуюцца яшчэ раз. Калі ўсё ў норме, то ставіцца штэмпель (кляймо). Такое мяса можа прадавацца.

Калі мяса прадаецца за межамі раёна і нават рэспублікі, даведак ужо больш. І самая важная – ад выканаўчай улады (сельскага Савета, райвыканкома). Пра форму гэтай даведкі службовыя асобы ведаюць. Яшчэ неабходна і спецыяльнае ветэрынарнае сведчанне сваёй фірмы.

Цяпер пра малочныя прадукты і малако. Даведкі пра стан здароўя дойных кароў абавязковыя. Значыць, іх трэба аглядаць як найчасцей, а адзін раз у месяц – абавязкова. Даведкі выпісваюцца, зноў жа, ветурачом ці фельчарам. Тэрмін яе дзеяння абмежаваны месяцам.

І гэта не ўсё. Прадаваць сваё малако і прадукты з яго можна толькі тым, хто прайшоў медыцынскае абследаванне і, зноў жа, мае даведку. Ёмістасці – слоікі, марля, цэлафанавыя мяшочкі – усё ў найчысцейшым стане. Абавязкова абдадзены кіпенем.

У нас многімі гэтымі правіламі пагарджаюць. Асабліва пры продажы малочных прадуктаў. А бесклапотнасць і безадказнасць могуць прывесці да штрафу і нават суда.

### Як працуецца, як жывецца?

# Клопаты будаўнікоў

Галоўныя аб'екты, на якіх у першым паўгоддзі працавалі будаўнікі ПМК-278 – гэта 50-кватэрны жылы дом у г.Чавусы, 12-кватэрны дом у калгасе "50 год БССР", 5 двухкватэрных дамоў у калгасе "Асінаўскі". Дырэктар Чавускага ААТ "Чавуская ПМК-278" **У.Р.Бардзілоўскі**, з якім адбылася размова ў чэрвені, расказвае:

– Усяго з пачатку года мы асвоілі па генпадраду 94581,3 тысячы рублёў, у тым ліку за май 28958,4 тысячы рублёў. Уласнымі сіламі асвоілі 75034,6 тысячы рублёў, у тым ліку за май 26533,5.

**– Уладзімір Рыгоравіч, а як асвойваліся гэтыя сродкі ў разрэзе аб'ектаў?**

– Па 50-кватэрнаму дому ў г.Чавусы з пачатку года па генпадраду асвоена 70563 тысячы рублёў, уласнымі сіламі 58396,9 тысячы рублёў, у тым ліку за май больш як трэцяя частка ад названай сумы.

На будаўніцтве 12-кватэрнага дома ў калгасе "50 год БССР" з пачатку года асвоена па генпадраду 6890,1 тысячы рублёў, уласнымі сіламі 3678,9 тысячы рублёў. У калгасе "Асінаўскі" на 5 двухкватэрных дамах па генпадраду асвоена 16793,5 тысячы рублёў, уласнымі сіламі 15549,5 тысячы рублёў.

**– Якая гатоўнасць гэтых аб'ектаў?**

– 12-кватэрнага дома ў калгасе "50 год БССР" 95 працэнтаў. Засталася зрабіць пафарбоўку ўнутры, балконныя рамы, фасад ды невялікае добраўпарадкаванне.

У калгасе "Асінаўскі" гатоўнасць 5 двухкватэрных дамоў 92 працэнты. Трэба зрабіць добраўпарадкаванне тэрыторыі, абвалоўку пограбаў ды пафарбоўку фасада.

Больш работы на 50-кватэрным доме ў г.Чавусы. Трэба яшчэ зрабіць дах, падлогу, шкленне.

Для завяршэння будаўніцтва гэтага дома патрэбна яшчэ 93 мільёны рублёў, на пачатак чэрвеня было выдзелена 7.

На аб'екце працуюць наша брыгада цесляроў, дзве брыгады муляраў, якія займаюцца кладкай перагародак, дзве брыгады аддзелачнікаў.

Сваімі сіламі мы б не паспелі здаць дом. Для паскарэння будаўніцтва заключан дагавор з Клімавіцкай ПМК-256, адкуль да нас прыбыла брыгада муляраў з 12 чалавек. Працуюць добра, выконваюць па паўтары нормы штодзённа.

З Клімавіч прыбыла і брыгада цесляроў.

Справу можа затармазіць адсутнасць дошкі для падлогі.

**– Словам, праблем хапае?**

– Гэта так. З-за няхваткі гаручага даводзіцца эканоміць. Цяжкасці з будаўнічай тэхнікай, яна ў нас зношана на 80 працэнтаў. Усе нашы краны патрабуюць праверкі на трываласць і надзейнасць. Іх апламбіравалі. А без крана на будоўлі нечага рабіць.

Дамовіліся з Магілёўскім УМ-106, прыслалі нам кранаўшчыцу.

**– Уладзімір Рыгоравіч, а як мяркуеце рабіць у другім паўгоддзі, ці ёсць фронт работ?**

– У другім паўгоддзі нашым будаўнікам прадстаіць працаваць на кладцы падмурка і сцен на царкве, на касцёле. Будзем рабіць прыбудову да школы ў вёсцы Вусце, у Асінаўцы – на жывёлагадоўчым комплексе.

**Гутарыў М.СЕКУШЭНКА.**

